*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 3 (1154)** **15 СТУДЗЕНЯ 2014 г.**

## 1000-я марка Беларусі




7 студзеня 2014 года выпушчаны блок з трох марак з серыі "Іканапіс Беларусі", маркі №№ 1000-1002, "Трыпціх, XXI ст.". У мастацкую аснову паштовага блока пакладзены абраз 2011 года стварэння "Сабор беларускіх Святых".

Трохчасткавы абраз "Сабор беларускіх святых" размяшчаецца ў кіёце ніжняга прыдзела Храма-Помніка Ўсіх Святых у Менску. Гэта найбольш поўная выява беларускіх святых і новапакутнікаў на момант стварэння абраза ў 2011 г. Сярэдняя частка трыпціха ўяўляе сабой сабор 16 беларускіх святых, якія шануюцца здавён, на фоне зборнага вобраза Храма Божага.

Левая і правая часткі - выявы 60 новапакутнікаў Беларусі, праззяўшых у апошнія ліхія гады.

Дызайн А. Мядзведзь. Наклад 20 тысяч.

Нагадаем, на марцы № 1 незалежнай Беларусі змешчана выява крыжа Ефрасінні Полацкай.

***Наш кар.***

## 110 гадоў з дня нараджэння Алеся Якімовіча

**ЯКІМОВІЧ Алесь** (Аляксандр Іванавіч; 17.1. 1904, в. Чурылава Уздзенскага р-на Менскай вобл. - 15.1. 1979), бел. пісьменнік; адзін з заснавальнікаў бел. дзіцячай л-ры. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1968). Скончыў БДУ (1930). З 1924 рэдагаваў час. "Беларускі піянер", "Іскры Ільіча", у 1945-48 - "Бярозку". З 1948 працаваў у Дзярж. выд-ве Беларусі, у 1955-60 літкансультант Саюза пісьменнікаў Беларусі. Друкаваўся з 1923. Першая кн. - "Вершы" (1925). Пісаў пераважна для дзяцей: зб-кі "Гул бубна" (1925), "Залаты зуб" (1937), "Сябры" (1948), "Я - юны піянер" (1952), "Залатыя рукі" (1975). Аповесці "Перамога" (1930), "Незвычайны мядзведзь" (1934) пра станаўленне характару вясковых хлапчукоў. Праблемы прац. і маральнага выхавання дзяцей у школе і сям'і ў аповесці "Гаворыць Масква" (1951), многіх апавяданнях. Аповесць "Смелыя людзі" (1960) пра гераізм сав. людзей у гады Вял. Айч. вайны. Тэтралогія (аповесці "Адкуль ліха на свеце", 1963; "Канец сервітуту", 1966; "Кастусь Каліноўскі", 1971, - за ўсе Дзярж. прэмія Беларусі 1974; "Цяжкі год", 1975) пра гіст. мінулае Беларусі. Апрацоўваў нар. казкі: зб-кі "Каток - залаты лабок" (1955), "З рога ўсяго многа" (1959), "Андрэй за ўсіх мудрэй" (1975). Пісаў літ. казкі ў вершах і прозе: "Каваль Вярнідуб" (1936), "Казка пра смелага вожыка" (1937), "Браты Лазоўскія" (1965). Аўтар кніг для чытання "Чытанка" (1933, з Е. Гародкінай), "Роднае слова" (1932), "Слухай -запамінай. Азбука ў вершах і малюнках" (1948), "Звяры нашых лясоў" (1951). Выступаў з артыкуламі па пытаннях тэорыі і практыкі бел. дзіцячай л-ры. На бел. мову пераклаў асобныя творы Х. Андэрсена, І. Крылова, Дж. Лондана, Гі дэ Мапасана, Дз. Маміна-Сібірака, У. Маякоўскага, М. Някрасава, А. Пушкіна, Л. Талстога, І. Тургенева, К. Чукоўскага, А. Чэхава, П. Яршова і інш. Асобныя вершы Я. пакладзены на музыку.



*М.Р. Міхайлаў.*

## Выйшаў "Верасень" № 9

Выйшаў з друку чарговы, дзявяты па ліку, нумар літаратурна-мастацкага часопіса "Верасень". Паэзія ў часопісе прадстаўлена творамі Ганны Новік, Артура Камароўскага, Ганны Рудак, Аляксея Карпенкі, Марысі Сушы, Аліны Агрэніч, Тацяны Мацюхінай, Тадоры Шпількі, Эдуарда Дубянецкага, Леаніда Дранько-Майсюка.

Раздзел "Проза" складаюць творы Кацярыны Глухоўскай, Віталя Воранава, Аляксандры Сымановіч, Ганны Старыковіч, Паўла Ляхновіча.

У раздзеле "Драматургія" друкуецца казачная п'еса Мюра Фарыдовіча "Цуда-малпа".

Сучасная польская літаратура ў нумары прэзентуецца апавяданнем Марціна Балчэўскага " Брудна-блакітная". На беларускую мову твор пераклала Ірына Хадарэнка.

Раздзел "Крытыка" адкрывае артыкул Святланы Калядкі "Эмоцыя ці рацыё", прысвечаны паэзіі Максіма Танка. Пад назвам "Легенды і міфы ТВЛ…" друкуецца гутарка Валерыі Куставай з Алесем Аркушам. Начнымі нататкамі з чытачамі дзеліцца Уладзімір Сіўчыкаў. Аб таямніцах творчага натхнення Марына Яўсейчык размаўляе з музыкам Пятром Клюевым. У артыкуле "Генерал свабоды" Анатоль Трафімчык даследуе тэму Тадэвуша Касцюшкі ў беларускай публіцыстыцы. Ала Петрушкевіч рэцэнзуе новую кнігу Міры Лукшы. Альдона Мартыненка гутарыць з салісткай гурта "Navi" Ксеніяй Жук. Па традыцыі заканчваецца нумар "дыскаграфіяй" музычнага аналітыка Вітаўта Мартыненкі.






ISSN 2073-7033
9 772073 703003

Пытайце "Верасень" № 9 на сядзібе ТБМ (Румянцава,13) і ў Акадэмкнізе. Чытайце "Верасень" на сайтах: Kamunikat.org і tbm-mowa.by.

Дасылайце свае творы ў "Верасень" на адрас: verasenchas@gmail.com

## 75 гадоў з дня нараджэння Васіля Шаранговіча



**Васіль Пятровіч ШАРАНГОВІЧ** (нарадзіўся 14 студзеня 1939, вёска Качаны у гміне Мядзел Пастаўскага павету, Заходняя Беларусь) - народны мастак Беларусі, творца ў галіне кніжнай і станкавай графікі.

Нарадзіўся ў сям'і каваля. Першай настаўніцай жывапісу для Васіля была мама, якая сама марыла стаць мастачкай, ды не мела магчымасці. Прафесійныя навыкі Васіль Пятровіч атрымоўваў, навучаючыся ў Мазалеўскага, Лейтмана, Паслядовіча.

Пасля заканчэння Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута (1966) Васіль Шаранговіч працаваў у выдавецтве "Беларусь", а пасля на працягу 25 гадоў загадчыкам кафедры графікі, прарэктарам па навучальнай працы і рэктарам БТМІ. З 1997 Васіль Шаранговіч на працягу 12 гадоў займаў пасаду дырэктара Музея сучаснага выяўленчага мастацтва. Сёння кіраўніком Музея сучаснага выяўленчага мастацтва з'яўляецца яго дачка, Наталля Васільеўна Шаранговіч.

За больш чым сорак гадоў творчасці мастак праілюстраваў больш за шэсцьдзесят кніг, палова з якіх адзначаная на ўсесаюзных і рэспубліканскіх конкурсах, у тым ліку чатырма дыпломамі і медалямі Францыска Скарыны. У станкавай графіцы шырока ўжывае нацыянальныя мастацкія традыцыі, сімволіку і метафару. У 1986 за нізку гравюраў "Памяці вогненных вёсак" Васіль Шаранговіч быў уганараваны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі і бронзавым мэдалём трыянале "Майданэк-85" у Польшчы.

Выставы мастака экспанаваліся ў многіх краінах Еўропы, Азіі і Амерыкі.

Ілюстраваў "Маніфест Камуністычнае партыі", дзіцячую кнігу "Залаты ключык", выданні паэмаў Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш" і Якуба Коласа "Новая зямля". Літаграфія Леніна, створаная Шаранговічам, прызнаная найлепшай у Савецкім Саюзе.

***Вікіпедыя.***



Да 75-годдзя мастака "Белпошта" выпусціла маркаваны маст. канверт.

# Дзе ў Пінску родная мова жыве?

Пастаўленае пытанне паклікала мяне на гарадскія вуліцы, ва ўстановы дзяржаўных структур, на заводы і фабрыкі, у школы, гімназіі, ліцэі, каледжы і ўніверсітэт, у грамадскі транспарт і г.д. І што ж я там убачыў і пачуў?

Карціна, прама скажам - жудасная. Роднай мове беларусаў у Пінску адведзена роля беднай падчарыцы. Мова злачынна знішчаецца. Але ж хочацца пачаць з добрага. Яго мала. Але прыклады station... 

### Пінск у візуальным афармленні

Нехта з вялікіх сказаў: "Тэатр пачынаецца з гардэроба". Калі перафразаваць гэтую мудрасць, то можна сказаць, што горад пачынаецца з візуальнага афармлення вуліц, дарог, будынкаў установаў, арганізацый, транспару...

У горад вядуць чатыры галоўныя дарогі: з Лунінца, Століна, Берасця і Івацэвічаў. Уязднныя ўказальнікі афармлены па-беларуску. Гэта радуе. Але далей негатыў бярэ свой верх. Назвы вуліц абазначаны амаль на кожным будынку і ў асноўным па-руску. Трэба адзначыць, што сям-там ёсць шыльды па-беларуску. І з'явіліся яны толькі пасля майго выступлення ў гарадскіх газетах і паходу ў ідэалагічныя аддзелы гаррайвыканкамаў.

Для прыкладу падлічыў указальнікі на адной з самых доўгіх вуліц горада. І падлікі паказалі на 18-20 рускамоўных шыльдаў прыпадае толькі адна беларуская. Вось такая роўнасць моў па-пінску. Цікава выглядзаюць і назвы вуліц. Вуліцы ў асноўным носяць назвы рускіх рэвалюцыянераў, дзяржаўных дзеячыў Саюза, паэтаў, пісьменнікаў, вучоных Расіі. А дзе ж беларускія знакамітасці? Горад весь у рэкламных шчытах. І на 90% яны афармлены на рускай мове. Знайшоў і беларускамоўныя. І ўсе яны, здаецца, належаць "Піна-трынт". Звярніце ўвагу на фотаздымак №1. а вось такіх парадоксаў, як на здымку "Родны кут" я магу назваць некалькі, дзе толькі адно слова беларусае, а ўсё далей па-руску. Гэта гаворыць аб непісьменнасці і нацыянальным безкультур'і гаспадароў гэтых гандлёвых кропак. Мяркуйце самі пра наступныя шыльды: *"Родны кут"* і *универсам, "Павильон", "Гасцинец", магазин "Журавинка", магазин "Павлинка", ресторан "Нестерка"* і г.д.

Чыгуначны вакзал - гэта своеасаблівыя вароты ў свет. Пасажырскія цягнікі прывозяць гасцей з Еўропы, Расіі, Украіны. Адсюль гаспадары горада адпраўляюцца ў падарожжа ў розныя куткі роднай Беларусі, у бліжняе і далёкае замежжа. Што ёсць беларускага на чыгуначным вакзале? З двух бакоў вакзала абазначана па-беларуску назва станцыі, з прывакзальнай плошчы - "Чыгуначны вакзал" Яшчэ знайшоў па-беларуску - "Багажнае аддзяленне". На гэтым, здаецца, беларускае на чыгунцы ў Пінску ўсё скончана. Куды ні кінь вокам - усюды чужая мова.

### Яе голасам гаворыць грамадскі транспарт горада

Добрыя словы ўдзячнасці трэба выказаць дырэкцыі АТП-3 за тое, што яны шмат робяць для таго, каб беларуская мова згодна з Законам аб мовах жыла. З гэтай мэтай амаль усе гарадскія аўтобусы абсталяваны радыёгукавой апаратурай для аб'яўлення прыпынкаў, агучвання розных паведамленняў і рэкламы. Прыемна сабе адчуваеш, калі прыгожы дзявочы голас на мілагучнай беларускай мове называе прыпынкі і агучвае рэкламу (праўда, рэклама ў большай частцы рускамоўная). І гэта голас Таццяны Валер'евай, якая працуе ў ТРК "Вараг". Яна з'яўляецца музыкальным рэдактарам радыёстанцыі "Сваё радыё". Для інфармацыі неабходна нагадаць пасажырам, што Таццяна вучылася ў школе № 9 горада Пінска. Настаўніца Галіна Аляксеўна Пашалюк заахвочвала дзяўчыну да авалодання беларускай мовай. Таня ў школьныя гады нават спрабавала пісаць вершы па-беларуску. У час нашай размовы Таццяна шчыра прызнаецца, што яе заслуг у тым, што яе голасам гаворыць транспарт у Пінску, няма, што яна ў паўсядзённым жыцці беларускай мовай карыстаецца даволі рэдка.




*На здымку Тацяна Валер'ева*

### На крылах песні

Песня - адзін з жанраў народнай творчасці, мастацтва народа. У песні выражаецца душа народа, песня суправаджае яго ва ўсіх праявах жыцця. Песня разам з чалавекам і ў радасці, і ў горы, і ў часы працы і адпачынку. У песні раскрываюцца думы і спадзяванні, характар народа і псіхалогія. Гэты жанр народнай творчасці самы папулярны і даступны шырокім масам людзей.

З добрай волі Міхася Цурканава беларуская песня жыве ў горадзе, дзякуючы яму Пінск вядомы не толькі ў Беларусі, але (не пабаюся сказаць) і ў свеце. Праслаўлены калектыў аматараў беларускай народнай песні і танцу, якім паўстагоддзя кіруе Міхаіл Васільевіч, разносіць, быццам на крылах, па краінах свету нашу песенную культуру, дорачы народам сямлі добры настрой, весялосць, шчасце. На крылах гэтай песні калектыў вяртае Пінску і ўсёй нашай Бацькаўшыне, нашай роднай Беларусі вядомасць, славу і гонар.

Вось перад маімі вачыма рэпертуар заслужанага аматарскага калектыву РБ ансамбля песні і танцу "Палескія зоры" на 2014 год. У ім 42 нумары. З іх толькі тры, дзе мастацкі кіраўнік выкарыстаў песенную творчасць народа Украіны і Расіі. Лічу неабходным нагадаць, што многія песні ў гэтым рэпертуары належаць пяру Міхася Цурканава, дзе словы і музыка яго. Нагадаю, што і таленавіты музыкант працуе разам з Цурканавым. Гэта апрацоўшчык песняў В. Кавалік. Калі будзе жыць і тварыць Міхась Цурканаў, то і будзе жыць беларуская песня. А будзе жыць народная песня, то будзе жыць і беларуская мова, будзе жыць Беларусь.

Найшаноўнейшы Міхась, Бог даў Вам цудоўны талент. Усявышні даў нашаму народу нацыянальную мову. Беларускую. Дзякуй Вам, што шануеце родную мову і не даеце ёй згінуць. Няхай родная мова на крылах песні разлятаецца па свеце!

***Уладзімір Гук,***
***г. Пінск.***




***На гэтай вуліцы і на вуліцы Ленінградскай устаноўлены рэкламныя шчыты кампаніі "Піна-прынт". Іх па 6-7 на кожнай, і ўсе па-беларуску***




***А тут вось такая роўнасць моў: адзін надпіс па-беларуску, а ўсё астатняе па-руску***

# *Імя* ці *імёнаў*?

Што беларуская мова знікае, знішчаецца, відавочна, у тым ліку ёсць віна і Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, якая ўплывамі і карнымі сіламі паспяхова займаецца яе заняўбаннем і вынішчэнне. Не магчыма тут прама не сказаць і аб некоторых яе вучоных. Але ўсё па парадку.

Зусім нядаўна з Нацдзяржтэлерадыё кампаніі РБ атрымаў шмат папераў, у тым ліку і з Цэнтра даследванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры за подпісам намесніка, першы яго радок - абзац пачынаецца так:

*"Філіял "Інстытут мовы і літаратуры імя* (?- М.У.) *Якуба Коласа і Янкі Купалы"* (...)"

З гэтых слоў мы можам падумаць, што ў свае часы былі адрозныя і самастойныя:

*Істытут мовы імя Якуба Коласа*

і

*Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы*

Потым рафарматары ў НАНБ злілі іх у адно цэлае - *Інстытут мовы і літаратуры імя* (? М.У.) *Якуба Коласа і Янкі Купалы,* а зараз, як бачна, мы маем у выніку нейкі агрызак-філіял...

Што тут у мяне, малапісьменага і недасведчанага чалавека, выклікае і недаўменне і здзіўленне.

Без сумненняў, расстаноўка імёнаў нашых вялікіх постацей, бо гэта моцна б'е ў вочы. Не гледзячы на роўнавялікасць іх, усё-такі беларуская традыцыя ставіць на першае месца Янку Купалу. Таму пра гэта трэба помніць усім нашым навук*оўцам*. У тым ліку і тым, што як ... паслухмяныя - *оўцы* паўзуць спачатку ў адзін Інстытут, а потым у філіял. Але і гэта не ўсё!

Здзіўляе тое, што філіял "Інстытут мовы і літаратуры..." носіць толькі імя Якуба Коласа, а Янка Купала проста так дапасаваны да яго.

Відавочна, намесніку дырэктара па навуковай працы С.Л. Гараніну - гэта цяжкая і непазнаная сутнасць, бо, каб быў ён дасведчаным вучоным, то філіял, а раней Інстытут павінен быў бы звацца:

*"Інстытут мовы і літаратуры <u>імёнаў</u>* (падкрэслена мною - М.М.) *Янкі Купалы і Якуба Коласа"*, а пакуль у назве яго мы бачым і непісьменнасць, і недасведчанасць супрацоўнікаў гэтай установы!

Можа я і памыляюся, але ж была ў старыя часы навука "Логіка", ды не ўсе, мабыць, яе вучылі.

***Міхась Угрынскі,***
*г. Баранавічы.*

# *Паважаная рэдакцыя "Нашага слова"*.

Я звяртаюся да сп. Івана Лепешава.

Я жыву ў Амерыцы, і сюды таксама прыязджаюць людзі, на якіх чужая мова дзеіць моцна. На мову беларускую доўгія годы наступ ідзе. У старыя часы, каб абдурыць беларуса, расейцам мала было нагоды, як тэлевізар, газеты, часопісы, кіно, і даўней людзі памяталі сваю слаўную гісторыю, а цяпер усё забаронена пісаць аб славе нашых продкаў. Калі пішуць, дык абмежавана, палову гістарычнай праўды. Усю праўду не дазволена апавяшчаць для людзей. Мне даводзіцца спатыкаць "рускіх", і калі я з'вяртаюся і кажу: "Хачу вас папытаць, скуль вы з дому у Еўропе?", - адразу мяне папраўляе: "Ты хочаш спрасіць?" "Не я хачу не прасіць, я пытаю цябе, няма чаго мне ў цябе прасіць." Не любяць мяне за тое, што я не ўмею па-расейску гаварыць, я расейскай мовы ў школе не вучыўся. Яны глядзяць, што спяваеш у хоры царкоўныя песні, дык ты можаш з імі размаўляць, а я не ўмею, бо ў Беларусі я жыў толькі, як мне было 11 год, а усё жыццё - перш у Нямеччыне, а цяпер Амерыка, і мала ў той час хто размаўляў па-расейску, бо такіх людзей хапалі і ў Савецкі Саюз вязлі.

Слова "здрасьце" мне гучыць, як у беларускай мове "здраджвайце".

Для беларуса святар можа быць з бародкай і безбароды. Валасы сярэдняй стрыжкі. Цераэмерна доўгія валасы, як гэта маюць стараверы, неабавязковыя для беларуса. Расейцы любяць святара барадатага, вусатага, валасатага, мой бацька меў такі погляд. Калі бацька у Нямеччыне пабачыў святара у беларускай царкве зусім каратка, як брыты, астрыжанага, без вусоў і барады, ён мне сказаў: "Гэта не праваслаўны свяшчэннік. Гэта лютаранскі святар". Беларуская прымаўка ёсць: "Бязвус, без барады, як чорт малады". Да чаго з маладосці прызвычаішся, будзеш усцяж хацець гэтага. Я зусім іншага погляду на тое і дапускаю, каб трохі было і новага далучыць да старога звычаю. Я цікаўлюся нашай мовай, і калі змены ідуць на карысць мовы, дык трэба мяняць, але калі ідзе, каб выкінуць тое, чаго ў расійскай мове няма, дык гэта шкодна для нашай мовы. Бачу, што ёсць людзі ў цяперашні час, якія дбаюць, каб мова народа ў Беларусі была на ўзроўні вышэйшым, як яна цяпер ёсць.

***Кастусь Верабей,***
*ЗША.*





Павел Сцяцко

# ПРОЗВІШЧЫ БЕЛАРУСІ: ПІСЬМЕННІКАВЫЯ НАЙМЕННІ

У чарговых публікацыях будуць разгледжаны пісьменнікавыя найменні (онімы), змешчаныя ў шасцітамовым выданні "Беларускія пісьменнікі: бібліяграфічны слоўнік. У 6 т.: Мінск: Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі. 1992-1995".

У выданні больш за 1100 артыкулаў. Будуць без падзелу на разрады апісваца новыя найменні, якіх не было ў выданні 1970 года. Зразумела, што на газетных старонках не могуць быць разгледжаныя ўсе найменні аўтараў, "якія пісалі на стараславянскай, беларускай, рускай, лацінскай, польскай і іншых мовах Беларусі".

Аўтар гэтых радкоў пасля публікацыі "Прозвішчы Беларусі" атрымлівае на свой адрас разнастайныя пісьмовыя і вусныя паведамленні, пытанні пра паходжанне тых ці іншых найменняў, чаму прозвішчамі выступаюць назвы жывёлінаў, дрэў, з'яваў прыроды, назвы паняццяў і іншыя.

Як слушна сцвярджае заснавальнік беларускай антрапанімікі акадэмік Мікалай Бірыла, *"старажытны чалавек у выніку анімістычнасці свайго мыслення адухаўляў прыроду, верыў… у магічную сілу слова, быў упэўнены, што жывёліны, дрэвы, розныя з'явы прыроды і іншае, назвы якіх узяты ў якасці імён, становяцца апекунамі, абаронцамі іх носьбітаў… Практычна кожнае паўназначнае слова магло быць выкарыстана ў якасці ўласнага асабовага імені. Гэта забяспечвала выкарыстанне неантрапанімічнай лексікі ў антрапанімічных мэтах"*.

Грунтоўныя артыкулы пра паходжанне прозвішчаў Беларусі не адзін год друкуе Валянціна Лемцюгова на старонках газеты "Беларусь Сегодня (Советская Белоруссия)" у рубрыцы "Что в имени моём?".

Некаторыя адказы на пытанні чытачоў "Нашага слова" будуць змяшчацца пры разглядзе пэўных антрапонімаў у гэтым і наступным артыкулах аўтара.

**Абуховіч** (Альгерд А., Міхал А., Пілiп А., Тодар А.) - форма бацькаймення ад прозвішча *Абух* з пераносам націску на антрапанімічны фармант -*овіч*. ФП: *абух* ('тупая патоўшчаная частка вострай прылады (звычайна сякеры), процілеглая лязу') - *Абух - Абухавіч - Абуховіч*.

**Агіевіч** (Уладзімір А.) - форма бацькаймення ад антрапоніма *Агій (Агей)* з пераносам націску на фармант -*евіч* (*Агій-евіч*) з семантыкай 'сын Агія (Агея)'. ФП: *Агій - Агей - Агіевіч - Агіевіч*.

**Адважны** (Вінцук А.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *адважны* 'смелы, рашучы'. ФП: *адважыцца - адважны - Адважны*. Пісьменнікава найменне *Адважны* (Вінцук А.) добра выяўляе рашучасць, адвагу, смеласць Язэпа Германовіча ў барацьбе за беларускасць, у змаганні з польскімі ўладамі, а затым кітайскімі (Харбін) за дапамогу беспрытульным бедным дзецям, а таксама з царскімі прыгнятальнікамі.

**Аколава** (Валянціна А.) - утварэнне з суфіксам -*ав-а* з семантыкай прыналежнасці ад антрапоніма *Акол* (*Акол-ава*), які, мажліва, ад апелятыва - прыслоўя *(в)акол* 'навокал, кругам'. Асоба магла набыць такое празванне ад частага выкарыстання гэтага слова ў маўленні.

**Алексіевіч** (Святлана А.) - форма бацькаймення ад антрапоніма *Алексій* (бел. *Аляксей*) нараджэнкі г. Іванава-Франкоўск (Украіна) з семантыкай 'дачка Алексія'. ФП: *Алексій - Алексіевіч - Алексіевіч*.

**Ананьеў** (Паўлюк А.) - утварэнне з прыналежным суфіксам -*еў* ад антрапоніма *Ананій* (*Ананій-эў*) з семантыкай 'нашчадак (сын) Ананія'. ФП: *Анань - Ананій - Ананіеў - Ананьеў*.

**Андраюк** (Серафім А.) - дэрыват з суфіксам -*юк(-ук)* ад антрапоніма *Андрэй* (*Андрэй-ук*) з семантыкай 'нашчадак Андрэя'. Утварэнні на -*ук(-юк)* пашыраныя на поўдні Беларусі і на Беласточчыне (тут нарадзіўся С. Андраюк). ФП: *Андрэй - Андрэюк - Андраюк*.

**Анісковіч** (Уладзімір А.) - форма бацькаймення з націскам на фармант -*овіч* і семантыкай 'сын Аніска'. ФП: *Анісій* (ці *Анісім*) - *Аніска - Аніскавіч - Анісковіч*.

**Аношкін** (Іван А.) - дэрыват з суфіксам прыналежнасці -*ін* ад антрапоніма *Аношка* (*Аношк-ін*) з семантыкай 'нашчадак'. ФП: *Ананія - Аношка - Аношкін*.

**Арабейка** (Іван А.) - дэрыват з суфіксальным фармантам -*к-а* ад антрапоніма *Арабей* (*Арабей-ка*) з памяншальна-ласкальным значэннем, а таксама семантыкай 'нашчадак'. ФП: *(в)ерабей - арабей - Арабей - Арабейка*. Магчымае і беспасярэдняе ўтварэнне ад заоніма *арабейка (верабейка)* шляхам антрапанімізацыі - пераходу агульнага назоўніка ў прозвішча.

**Арлоў** (Уладзімір А.) - дэрыват з суфіксам прыналежнасці -*оў* ад антрапоніма *Арол* (*Арл-оў*) з семантыкай 'нашчадак асобы з прозвішчам *Арол*'. ФП: *арол* (птушка) - *арол* (перан. пра смелага, гордага чалавека) - *Арол - Арлоў*.

**Арлоўскі** (Восіп А.) - утварэнне з суфіксам -*оў-ск-і* ад тапоніма *Арол* (г. Арол) ці *Арловае* ('мясціна, дзе вяліся арлы'). Або як прэстыжнае найменне ад *Арол*. ФП: *арол - Арол - Арлы - Арловае - Арлоўскі*.

**Арол** (М.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *арол* 1) 'драпежная птушка з загнутай дзюбай сямейства ястрабіных, якая звычайна жыве ў гарыстай мясцовасці або ў стэпе; 2. пераносна. Пра смелага, гордага чалавека. ФП: *арол* (птушка) - *арол* (чалавек) - *Арол* (антрапонім).

**Арсеннева** (Наталля А.) - форма прыналежнага прыметніка з суфіксам -*ев-а* ад антрапоніма *Арсеній* (*Арсеній-ева*) з семантыкай 'нашчадак (дачка) Арсенія'. ФП: *Арсеній - Арсенјева - Арсеннева* (спалучэнне *нј* дало падаўжэнне (графічна падваенне "н").

**Артымовіч** (Надзея А.) - форма бацькаймення ад антрапоніма *Артым* з націскам на фарманце -*овіч* (*Артымовіч*) з семантыкай 'нашчадак Артыма'. Адымёнавае ўтварэнне (пашыранае на Беласточчыне (Польшча)).

**Асташонак** (Алесь А.) - утварэнне з дыялектным суфіксам -*онак* ад антрапоніма *Асташа* (*Асташ-онак*) з семантыкай 'нашчадак'. ФП: *Астафій - Асташа - Асташонак*.

**Атава** (Апанас А.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *атава* 'трава, што вырасла ў той жа год на месцы скошанай'. Найменне травы *атава* стала атрыбутам селяніна (чалавека з прозвішчам Кананові Апанас).

**Атрашкевіч** (Валерый А.) - форма бацькаймення ад антрапоніма *Атрошка* з пераносам націску на фармант -*евіч* з семантыкай 'сын (нашчадак)'. ФП: *Трафім - Трахім - Атрахім - Атрош - Атрошка - Атрашкевіч*.

**Афанасій Філіповіч** (каля 1597-1648). У слоўнікавым артыкуле чытаем: "Афанасій Філіповіч [сапр. імя невядома; прозвішча, магчыма, з'яўляецца імем па бацьку…]" Аўтар артыкула А.Ф. Коршунаў выказвае толькі здагадку аб арозвішчы пісьменніка-палеміста, мемуарыста. Папраўдзе, усе адымёнавыя ўтварэнні на -*овіч, -евіч, -іч* выступаюць прозвішчамі, набыўшы акцэнтаванне на гэты антрапанімічны фармант: параўн. *Багдан-авіч - Багдановіч, Даніл-авіч - Даніловіч, Кузьма - Кузьміч* і пад. А першая частка гэтай антрапанімічнай намінацыі (формулы) *Афанасій* - тыповае імя кананічнае (М. Бірыла. Беларуская антрапанімія. 3. Структура ўласных мужчынскіх імён. - Мінск, 1982, с. 35).

**Багданаў** (Юрый Б.) - форма прыналежнага прыметніка з суфіксам -*аў* ад *Багдан* (*Багдан-аў*). Прозвішчы тыповыя для расіянаў. У беларусаў іх адпаведнікі на -*овіч* (*Багдановіч*).

**Бадак** (Алесь Б.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *бадак*, які бытуе на Брэстчыне (радзіма пісьменніка - вёская Туркі Ляхавіцкага р-на) і Гродзеншчыне і зафіксаваны ў "Слоўніку народнай мовы Зэльвеншчына" з двума значэннямі: 1) асот; 2) вазонсталетнік. У "Глумачальным слоўніку беларускай мовы" падаецца толькі *бадзяк* 'шматгадовая травяністая расліна з калючкамі і парпуровымі кветкамі'.

**Байкоў** (Мікола Б.) - форма прыналежнага прыметніка з суфіксам -*оў* ад антрапоніма *Бойка* (*Байко*) з семантыкай 'сын (нашчадак) названай асобы'. ФП: *біць - бой - бойка* ('працэс' і 'прылада (пасудзіна для ручнога збівання масла з вяршкоў малака (смятанкі)') - *Бойка - Байко - Байкоў*.

**Баравікова** (Раіса Б.) - форма прынележнага прыметніка з суфікса -*ов-а* ад антрапоніма *Баравік* (*Баравік-ова*) з семантыкай 'нашчадак (дачка) асобы з прозвішчам *Баравік*'. ФП: *бор* ('лес') - *баравы* ('з бору') - *баравік* ('грыб') - *Баравік* (перан. пра чалавека, падобнага да баравіка (чырвонашчокага, каржакаватага) - *Баравікова*. Або: *бор - баравы - баравік - Баравікова*.

**Баркоўскі** (Сцяпан Б.) - адтапанімічны дэрыват ад наймення *Баркі* ('паселішча') з суфіксам -*оўскі* (*Барк-оўскі*). ФП: *бор - барок - Баркі - Баркоўскі*.

**Баршчэўскі** (Аляксандр Б.) [Барскі Алесь] - мажлівае ўтварэння з суфіксам -*эўскі* ад *Барскі* (*Барск-эўскі - Баршч-эўскі*, чарг. *ск/шч*). З іншых псеўданімаў пісьменніка тут выразны этымон *Баравы* - дэрыват ад *бор*, таму першаснай магла быць форма **Барскі**. Але, відаць, не абышлося без кораня *бар-* (*барынь, барыня*).

Найменне **Баршчэўскі** досыць пашыранае сярод творчай інтэлігенцыі: Баршчэўскі Лявон, паэт перакладчык, крытык, мовазнаўца-лексікограф; Баршчэўскі Ян, паэт, празаік, пісаў на беларускай і польскай мове.

Слова *баршчэўнік* 'шматгадовая травяністая расліна сямейства парасонавых, з дробнымі белымі або зялёна-жоўтымі кветкамі' выкарыстоўваецца ў народнай мове ў больш кароткай форме *боршч*. Ад гэтага апелятыва з семантыкай 'расліна' ці 'від стравы з буракоў, капусты і іншай агародніны' і дэрывата ад яго *баршчавік* маглі ўзнікнуць прозвішчы **Баршчэўнік** і **Баршчэўскі**. А антрапонім **Барскі** - і ад апелятыва *барс* 'буйная драпежная жывёліна сямейства катоў з плямістай поўсцю'. Форма *Баршчэўскі* ўсведамляецца як прэстыжнае, шляхетнае найменне з фармантам -*эўскі*. Як і *Лісоўскі* (ад *Ліс*) ці *Камароўскі* (ад *Камар - Комар*), *Казлоўскі* (ад *Казёл, Казлоў*).

**Блакіт** (Валянцін Б.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *блакіт* 'светла-сіні колер', 'чыстае яснае неба'. ФП: *блакітны - блакіт - Блакіт*.

**Бондар** (Таіса Б.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *бондар* 'майстар у вырабе драўлянага посуду (бочак, дзежак, цаброў і пад.)'. ФП: *бонда* ('бочка') - *бондар - Бондар*.

**Бохан** (Дарафей Б.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *бохан* 'выпечаны хлеб, пераважна круглай формы'. ФП: *бохан - Бохан*.

**Броўка** (Пятрусь Б.) - магчымы семантычны дэрыват з фармантам -*к-а* і семантыкай памяншальна-ласкальнасці ад *бровы* (мн. ад *брыво*) або ад *броўка* 'абочына, бакавая частка, край дарогі, гасцінца'. ФП: *бровы - броўка - Броўка*. Або: *броўка - Броўка*.

**Бубнаў** (Генадзь Б.) - прыметнікавая форма з прыналежным суфіксам -*аў* ад антрапоніма *Бубен* з семантыкай 'нашчадак (сын) названай утваральным словам асобы'. ФП: *бубен - Бубен - Бубнаў*.

**Будзька** (Эдвард Б.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *будзька* - утварэння з суфіксам -*к-а* ад *будзіць*: *будзька* 'той, хто будзіць' (Насовіч). Як і *радзька* (*радзько*) 'той, хто радзіць', 'дарадчык', *проська* 'просьбіт'. ФП: *будзіць - будзька - Будзька*.

**Буран** (Васіль Б.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *буран* 'снежная бура, завіруха, мяцеліца, завея'. ФП: *бурыць - буран - Буран*.

**Бусько** (Мікола Б.) - мажлівае ўтварэнне з фармантам -*к-а* ад *бусяць* 'цалаваць' (*даваць буські*), а таксама ўсведамляецца як памяншальна-ласкальнае ад *бусел* 'вялікая пералётная птушка з доўгай простай чырвонай дзюбай і высокімі чырвонымі нагамі': *буселко - бусько*. У гаворках Зэльвеншчыны такія ўтварэнні бытуюць, яны падаюцца ў нашай працы "Слоўнік народнай мовы Зэльвеншчыны" (2005). Чалавек мог атрымаць мянушку *Бусько* за частае выкарыстанне ў сваім маўленні слова *буські* (*даць буські* 'пацалаваць'). ФП: *бусяць*('цалаваць') - *буські - буська - бусько - Бусько*, або *бусел - бусько - Бусько*.

**Бутрамееў** (Уладзімір Б.) - прыметнікавая форма з прыналежным суфіксам -*еў* ад антрапоніма *Бутрамей* (*Бутрамей-еў*) з семантыкай 'нашчадак' (сын Бутрамея). ФП: *Бутрамей* (імя) - *Бутрамей* (прозвішча) - *Бутрамееў*.

**Быліна** (Янка Б.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *быліна*, які мае розныя значэнні: 1) народная эпічная песня пра асілкаў і іх подзвігі; 2) сцябліна травы, травіна; 3) апавяданне аб праўдзівым здарэнні - утварэнне з -*ін-а* ад слова *быль*: *был-іна*, сінонім да 'былое'. Усе значэнні слова *быліна* добра ўпісваюцца ў жыццёвы і творчы шлях гэтага пісьменніка.

**Бярозка** (Георгій Б.) - семантычны дэрыват ад апелятыва **бярозка**, які мае розныя значэнні: 1) лісцевае дрэва з белай карой; бярэзіна: 2) травяністая расліна сямейства бярозавых з павойным сцяблом і белымі ці ружовымі кветкамі. ФП: *бяроза - бярозка - Бярозка*.

**Бяспалы** (Змітро Б.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *бяспалы* 'бяспальцы - у каго няма (ці не хапае) пальцаў'. Слова *бяспалы* падаецца "Вялікім слоўнікам беларускай мовы" Ф.А. Піскунова (2012) побач з *бяспальцы*. У перакладных слоўніках яно змяшчаецца як адпаведнік беларускага *бяспальцы* (БРС, 1998, Т. 1, с. 211).

**Вайцяшонак** (Марыя В.) - утварэнне з суфіксам -*онак* ад старажытнага славянскага імені, папулярнага ў палякаў, *Войцех*: *Войцех-онак - Вайцяш-онак*.

**Вальтар** (Віктар В.) - адымёнавае прозвішча: імя *Вальтар* падаецца ў "Арфаграфічным слоўніку беларускай мовы" ў рубрыцы "Асабовыя ўласныя імёны, распаўсюджаныя па-за межамі Беларусі". Аўт.-склад. А.Л. Баршчэўская, Л.П. Баршчэўскі. - Мінск : Радыёла-плюс, 2010. - 560 с. - с. 550. Пісьменнік родам з Даўгапіла (Латвія), быў дырэктарам Дадатковай беларускай школы ў Рызе (1930 г.).

**Варановіч** (Адольф В.) - форма бацькаймення ад антрапоніма *Воран* (*Варона*) з акцэнтаваннем фарманта -*овіч*. ФП: *воран (варона) - Варона (Воран) - Варонавіч - Варановіч*.

**Верабей** (Анатоль В.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *верабей* 'невялікая птушка атрада вераб'іных з карычнева-шараватым апярэннем, якая жыве пераважна паблізу чалавека'. ФА: *верабей* (птушка) - *Верабей* (празванне) - *Верабей* (прозвішча).

**Верамейчык** (Уладзімір В.) - дэрыват з суфіксам -*чык* ад антрапоніма *Верамей* (*Верамей-чык*), які ад імя *Верамей* (<*Еремей*) з семантыкай 'нашчадак (сын) Верамея'.

**Верас** (Зоська В.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *верас* 'нізкая вечназялёная кустовая расліна сямейства верасовых з дробным лісцем і лілова-ружовымі кветкамі'.

**Вечар** (Алесь В.) - семантычны дэрыват ад апелятыва *вечар*, які мае два значэнні: 1) час сутак ад канца дня да надыходу ночы. 2) Грамадскі вячэрні сход, прысвечаны якой-небудзь даце. Прозвішча ўзнікла ад першага значэння слова, пра што сведчыць псеўданім *Раніца* (Алесь Раніца), пад якім друкаваліся творы паэта (доктара біялагічных навук, прафесара, акадэміка НАН Беларусі Алеся Вечара).

**Віталін** (Змітро В.) - утварэнне з суфіксам прыналежнасці -*ін* ад антрапоніма *Віталь* (*Вітал-ін*) з семантыкай 'нашчадак Віталя'. Адымёнавае ўтварэнне. ФА: *Віталь і Віталій - Віталін*.

**Віцьбіч** (Юрка В.) - утварэнне з суфіксам -*іч* ад *Віцьба* (рака) з семантыкай 'жыхар Віцебска, віцьблянін'. Слова *віцьбіч* з гэтым значэннем падае "Вялікі слоўнік беларускай мовы" Ф.А. Піскунова. Адтапанімічнае прозвішча. Параўнай *Зэльвіч* (*Зэльва*) - псеўданім Міхася Скоблы, аўтара публікацыі "Чысцец для мовы" (ЛіМ. 1998. 10 крас.).

**Воранаў** (Мікола В.) - дэрыват з суфіксам прыналежнасці -*аў* ад *Воран* (*Воран-аў*) з семантыкай 'нашчадак'. ФП: *варона - воран - Воран - Воранаў*. Адапелятыўнае прозвішча.

*(Працяг у наст. нумары.)*

# Як далёка нам да Беларусі

*Усё лятуць і лятуць тыя коні,*
*Срэбнай збруяй далёка грымяць...*
*Старадаўняй крывіцкай Пагоні*
*Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.*
М. Багдановіч.

У снежні 2013 года сябры Салігорскай гарадской суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны ўшанавалі з нагоды 122 гадавіны з дня нараджэння памяць выдатнага беларускага паэта Максіма Багдановіча. На сходзе суполкі ТБМ яе сябры Мікола Шаравар, Андрэй Гапановіч, Уладзімір Масакоўскі і іншыя чыталі вершы Максіма Багдановіча і ўспаміналі радкі з яго біяграфіі. Усе удзельнікі сходу падпісаліся ў лістах аб захаванні юрыдычнага статусу Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, якія ў хуткім часе былі адпраўлены Міністру культуры Рэспублікі Беларусь.

На сходзе суполкі ў шэрагі ТБМ быў прыняты Дзмітрый Тыўпека. Старшыня суполкі ТБМ Мікола Шаравар азнаёміў сяброў таварыства з планам дзеянняў ГА ТБМ імя Ф. Скарыны на 2014 год. Былі разгледжаны пытанні аб працы Салігорскай суполкі ТБМ у новым, 2014 годзе.

Але вернемся да Максіма Багдановіча. Я прапаную чытачам газеты ТБМ "Наша слова" прачытаць адзін з вершаў Максіма Багдановіча, які скіраваны ў будучыню і адлюстроўвае як яго час, так і сёняшні наш духоўны стан.

*Народ, Беларусі Народ!*
*Ты - цёмны, сляпы, быццам крот.*
*Табою ўсягды пагарджалі,*
*Цябе не пушчалі з ярма*
*І душу тваю абакралі -*
*У ёй нават мовы няма.*
*Збудзіўшысь ад грознай бяды,*
*Увесь поўны смяротнай жуды,*
*Ты крыкнуць не вольны "Ратуйце!"*
*І мусіш ты "Дзякуй!" крычаць.*
*Пачуйце жа гэта, пачуйце,*
*Хто можа з вас сэрцам чуваць!*

Чытаеш і думаеш, як далёка нам да Беларусі.

Дык паўстанем з каленяў і супольна, з гонарам, скажам ва ўвесь голас: "Я Беларус! "Мы Беларусы!"

***Уладзімір Мысакоўскі,***
*г. Салігорск.*

# Якому календару верыць?

Звычайна ў снежні з нецярпеннем чакаеш не толькі святочных дзён калядных, Новага года, але і таго моманту, калі даўжыня дня пачынае прыбываць пасля зімовага сонцастаяння. Як быццам бы з кожным днём адчуваеш подых вясны. Зазірнуў у каляндар "Родны край за 2013 год. Там пазначана, што даўжыня дня на 31 снежня 2013 г. склала 7 гадзін і 29 хвілін, а самага кароткага дня 7 гадзін і 24 хвіліны. Адкрыў каляндар "Родны край на 2014 год. Гляджу і бачу, што даўжыня дня за 2 студзеня 2014 г. дасягнула 7 гадзін 17 хвілін. Выходзіць, што за першы дзень Новага 2014 года працягласць светавога дня скарацілася аж на 12 хвілін. Хто паставіў такую інфармацыю для складальнікаў календароў. Астралагічные звесткі календароў аднолькавыя. Сярод складальнікаў календароў "Родны карй" на 2013 і 2014 г. значыцца Сідарава Л.У. Зазірнуў у перакідны календар на 2014 г., там працягласць дня для Менска на 2 студзеня 2014 г. пазначана ў 7гадзін 31 хвіліну. Розніца з календаром "Родны край " - 14 хвілін. Раю ў далейшым складальнікам календара больш увагі звяртаць на такія здавалася б дробязі, бы выходзіць, што карыстацца календаром "Родны край" на 2014 год патрэбна з асцярожнасцю.

***П.І. Рогач,***
*дацэнт.*

# Рэклама па-беларуску ў Польшчы




***Рэклама на польскай і беларускай мове каля аўтавакзала ў Беластоку.***

# У Менску з'явяцца вуліцы Агінскага і Капіевіча

Менскі гарадскі Савет дэпутатаў прыняў рашэнне аб прысваенні найменняў шэрагу частак сталіцы. Адпаведнае рашэнне № 386 ад 23 сне 2013 апублікавана сёння на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.

Так, вырашана прысвоіць парку ў межах вуліц Каменнагорскай, Лідскай, Калеснікава, Казіміраўскай назву **"Парк імя Уга Чавэса"**.

Акрамя таго, у мікраРаёне Магістр замест праектаванай вуліцы №1 з'явіцца вуліца **Агінскага**, замест праектаванай вуліцы №2 ад праектаванай вуліцы №1 да вуліцы Кірылы Тураўскага - вуліца **Іллі Капіевіча**.

Праектаваная вуліца №3 будзе называцца вуліцай **Акадэміка Высоцкага**.

Што тычыцца вуліц Агінскага і Капіевіча, то трэба адзначыць, што тут рэалізаваліся даўнія прапановы ТБМ.

***Паводле БелТА.***



# Руплівы філамат

*У серыі "100 выдатных дзеячаў беларускай культуры" выйшла кніга Ірыны Шумскай "Ян Чачот. Руплівы філамат". Серыя заснавана ў 2012 годзе Заснавальнік, каардынатар і рэдактар серыі А.Я. Тарас. Мастацкае афармленне серыі Б.Г. Клюйка.*

**Ян Чачот** (1796-1847) - паэт, публіцыст, фалькларыст, краязнавец, сябар легендарнага Таварыства філаматаў, адным з першых пачаў руйнаваць міф пра "беднасць і немілагучнасць" беларускай мовы. Ягоная прага да асветніцтва, адстойванне ідэй незалежнасці роднага краю, справядлівасці і роўнасці правоў для ўсіх людзей могуць служыць годным прыкладам для сучаснікаў. Думкі, выказаныя Чачотам у творах, напісаных амаль два стагоддзі таму, застаюцца актуальнымі і ў нашыя дні.




Згодна з гіпотэзай даследчыкаў прозвішчаў, слова "Чачот" паходзіць ад назвы невялікай жвавай птушкі чачоткі, яно распаўсюджана сярод беларусаў яшчэ з перыяду паганства. Сапраўды, шляхетны род Чачотаў існаваў здаўна, на пэўным этапе існавання ён быў нават адзначаны фамільным гербам Астоя. Прадзед паэта, Філіп Чачот, які пражываў у Ашмянскім павеце, разам з жонкай Алёнай выгадаваў пяцёра дзяцей. Дзед - Ян Язэп Чачот, у сваю чаргу, меў чацвёра дзяцей. Яго старэйшы сын Тадэвуш, ажаніўшыся з Клавай Гацiскай, дачкой навагрудскага ротмістра, стаў бацькам славутага філамата. Цікава, што немаўля ахрысцілі двойчы - спярша па ўніяцкім абрадзе, а праз два тыдні ў каталіцкім касцёле ў Варончы.

У якасці месца нараджэння паэта, які пасля другога хрышчэння займеў дадатковае імя Антоні, у літаратурных крыніцах пазначаецца вёска Малюшычы Наваградскага павета, хоць, напрыклад, даследчык Анджэй Сыракомля- Булгак лічыць, што гэтая падзея магла адбыцца і ў Сэрвачы. Таксама біёграфы згадваюць маёнтак Рэпіхава і фальварак Узногі Навамышскай парафіі, што пад Баранавічамі. Недзе там, ля берагоў ракі Мышанкі (прыток Шчары), праз 10 гадоў нарадзіўся другі сын Чачотаў - Пётр Павел, і, адпаведна, там праходзіла дзяцінства Яна Антонія Чачота. Не дзіўна, што псеўданім "Ян з Мышы" быў абраны Чачотам з нагоды даніны любаму мястэчку, якое ён з вялікай цеплынёй узгадваў у сваёй баладзе "Мышанка".

Малому Яну часта даводзілася чуць ад маці казачныя расповеды пра дзеда-барадзеда, вядзьмарак ды іншых міфічных істот. Прыязнасць да фальклору натуральным чынам вынікала з дзяцінства: сям'я Чачотаў ніколі не адгароджвалася ад простага люду...

***Наш кар.***

# Чым дапоўняць "Кодэкс аб адукацыі..."?



Грамадскае аб'яднанне
"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"
220034, г. Мінск вул. Румянцава, 13, тэл. 284-85-11, разліковы рахунак
№ 3015741233011 у ЦБП №539 ААТ Белінвестбанка", г. Мінска, код 739

16 снежня 2013 г. № 93

Старшыні Пастаяннай камісіі
па адукацыі, культуры і навуцы
Палаты Прадстаўнікоў
Нацыянальнага Сходу
сп. Г.У. Пальчыку

Аб зменах у
Кодэкс аб адукацыі
Рэспублікі Беларусь

**Шаноўны Генадзь Уладзіміравіч!**

Мы звяртаем Вашу ўвагу на тое, што Міністэрства адукацыі на працягу апошніх гадоў праводзіць мэтанакіраваную палітыку па паступовым выцясненні дзяржаўнай беларускай мовы з усіх сфераў адукацыі на ўсіх узроўнях: ад дзіцячага садка да ВНУ. Прывядзём канкрэтныя прыклады:

1) У свой час, без абмеркавання з грамадскасцю, у рускамоўных школах было забаронена выкладаць гісторыю і геаграфію Беларусі на дзяржаўнай беларускай мове.

2) Вучням і выкладчыкам у рускамоўных школах са спасылкай на адзіны моўны рэжым забаранялася запаўняць на беларускай мове школьныя дзённікі, весці школьнае справаводства, адказваць па-беларуску на ўроках, нават размаўляць з настаўнікамі. У той жа час моўны рэжым у школах з беларускай мовай навучання заўжды парушаецца і нават адсутнічаюць беларускамоўныя версіі некаторых падручнікаў.

3) Не выконваецца План мерапрыемстваў па папулярызацыі беларускай мовы, зацверджаны А.М. Радзьковым яшчэ ў сакавіку 2010 г. (копія дадаецца).

4) У інтэрнэце з'явілася інфармацыя пра распрацаваны ў сістэме адукацыі дакумент, які груба парушае дзейную Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь.

У сувязі з гэтым просім Вас замацаваць у Кодэксе аб адукацыі з мэтай пашырэння дзяржаўнай беларускай мовы:

1) абавязковае выкладанне гісторыі і геаграфіі Беларусі на беларускай мове;

2) права выкладчыкам і вучням у рускамоўных школах выкарыстоўваць беларускую мову ў наглядным афармленні класаў і рэкрэацыйных памяшканняў школ, а таксама пры запаўненні розных дакументаў, звязаных з працэсам навучання;

3) усе інструкцыі для службовага карыстання павінны адразу выдавацца на абедзвюх мовах, прычым не павінна дапускацца дыскрымінацыі дзяржаўнай беларускай мовы.

Мы прапаноўваем уключыць у Кодэкс таксама некаторыя пункты (на Ваш выбар) вышэйзгаданага плана, зацверджанага А.М. Радзьковым 12 сакавіка 2010 г.

З павагай,
старшыня ТБМ А. Трусаў.

---



| НАЦЫЯНАЛЬНЫ СХОД РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ | НАЦИОНАЛЬНОЕ СОБРАНИЕ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ |
|---|---|
| ПАЛАТА ПРАДСТАЎНІКОЎ | ПАЛАТА ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ |
| Пастаянная камісія па адукацыі, культуры і навуцы | Постоянная комиссия по образованию, культуре и науке |
| 220010, г. Мінск, Дом Урада, тэл./факс (017) 222-65-45, факс (017) 327-37-84 E-mail: aduk@house.gov.by | 220010, г. Минск, Дом Правительства, тел./факс (017) 222-65-45, факс (017) 327-37-84 E-mail: aduk@house.gov.by |

23 снежня 2013. № 20-06/303
на № ______________ от ______________

Старшыні грамадскага аб'яднання
"Таварыства беларускай мовы
імя Францішка Скарыны"
Трусаву А.А.

Паважаны Алег Анатольевіч!

У Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і навуцы разгледжаны Ваш ліст, у якім выкладзены прапановы аб дапаўненні Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адукацыі палажэннямі, накіраванымі на пашырэнне ўжывання беларускай мовы ва ўстановах адукацыі краіны.

Паведамляем Вам, што ў адпаведнасці з рэкамендацыямі па выніках парламенцкіх слуханняў па тэме "Удасканаленне заканадаўчай базы нацыянальнай сістэмы адукацыі ў сучасных умовах" камісія працуе над падрыхтоўкай плана ўдасканалення заканадаўчай базы сістэмы адукацыі. У ходзе гэтай работы Вашы прапановы будуць дасканала вывучаны намі і пры неабходнасці ўключаны ў згаданы план.

Старшыня камісіі Г.У. Пальчык.

---

# Парадак дня Рэспубліканскай Рады ТБМ 26.01.2014 г.

1. Справаздача Старшыні ТБМ аб працы арганізацыі за 2013 г.
2. Зацвярджэнне плана працы ТБМ на 2014 год .
3. Прыняцце Заявы адносна сітуацыі з Літаратурным музеем імя Максіма Багдановіча.
4. Падрыхтоўка да юбілею ТБМ.
5. Падрыхтоўка да чарговага з'езду ТБМ.
6. Прыняцце Звароту да кандыдатаў у дэпутаты мясцовых саветаў і выбарнікаў.
7. Рознае.

# "Белінвестбанк" выпусціў каляндар, прысвечаны беларускім палацам










"Белінвестбанк" працягвае серыю календароў "Памятаем пра мінулае, рухаючыся ў будучыню", якую распачаў у 2011 годзе.

Сёлета тэмай календара сталі палацы і сядзібы Беларусі. Паводле стваральнікаў календара, выданне можна выкарыстоўваць як карту славутых мясцінаў, адмыслова для тых, хто лічыць, што ў Беларусі цікавай архітэктуры няма.

Беларусь у календары разбітая на дванаццаць зонаў. На кожнай з іх пазначаны архітэктурныя помнікі той ці іншай вобласці: ад сядзібна-паркавага ансамбля Плятэраў у Опсе да палаца Бутрымовіча ў Пінску. Усяго на карце пазначаны 41 аб'ект.

Каляндар выпушчаны на беларускай і англійскай мовах, што стала традыцыяй. Да таго ж, апроч класічнага насценнага календара, існуюць настольная, квартальная і кішэнная версіі.

ЮУ





Алесь Бяляцкі

# СЦЯГА ПАЭТА

## Штрыхі да творчага партрэта паэта Эдуарда Акуліна

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Вершы, створаныя ў наступныя 4 гады, збяруцца паэтам пазней у зборнік "Крыло анёла".

Гэтыя вершы, напісаныя на новым этапе жыцця паэта, прыпалі на гістарычны злом эпох. Матэрыяльныя цяжкасці, праблемы з жытлом, татальны дэфіцыт, бытавыя праблемы - рысы паўсядзённага жыцця. І ў той жа час на вачах развальваецца Савецкі Саюз, і з кожным днём набліжаецца высненая мара - Беларусь прастуе да незалежнасці! Няпростая, радасная, захапляльная і трывожная пара зменаў у грамадскім жыцці краіны, у жыцці паэта прыпала на адзін і той самы час. Паэт не можа не пісаць пра Беларусь.

У вершах, прысвечаных Радзіме, напісаных у гэты навальнічны час, заўважаеш страшэнную трывогу Эдуарда Акуліна за лёс Беларусі. Паэт прымае на сябе ўсе пакуты, увесь боль, які раней давялося перажыць Беларусі:

*Вось зямля. Гэта неба,*
*а між, затаіўшы жалобу сваю,*
*пачарнелы, як прадзедаў крыж,*
*на раскрэсах Радзімы стаю.*

*А шляхі - у чатыры бакі*
*перасохлымі рэкамі мкнуць...*
*А сляза - на абедзьве шчакі.*
*А бяда - як разлітая ртуць.*

(Крыж, с. 146/4-8)

Паэт выдатна разумее той цяжкі дэнацыяналізаваны стан, у якім падышло беларускае грамадства да пераломных падзеяў. Ён выкарыстоўвае паралелі ў беларускай гісторыі, каб паказаць усю складанасць і трагічнасць сітуацыі. Ён задаецца пытаннем: ці можа народ, які стагоддзямі трываў уціск, і рэгулярна знішчаліся ўсе нацыянальна адметнасці і асаблівасці, ці зможа ён зрабіць слушны выбар свайго далейшага гістарычнага шляху:

*мой народ, пілігрым аслеплы,*
*што не выйдзе з начы на дзень.*

(Слова Паўлюка Багрыма, с. 107/3-4)

Эдуард Акулін робіць высноў, што толькі магутныя сацыяльныя катаклізмы могуць разбудзіць беларусаў, прымусіць іх узяць на сябе гістарычную адказнасць за свой лёс. Гэта была даволі смелая на той час высnova:

*Сэрца прысак раздзьмуць у сілах*
*толькі горана ўздых магутны.*

(Слова Паўлюка Багрыма, с. 107/11-12)

Паэт цудоўна ўсведамляе, што воля не даецца проста так, і здабыццё волі патрабуе сур'ёзных намаганняў і ахвяраў. Ён безупынку звяртаецца да гістарычных паралеляў, перадаючы такім завуаляваным чынам свае сапраўдныя думкі. Беларускія постаці нацыянальнага спамеру - Паўлюк Багрым, Францішак Багушэвіч, сваім жыццём, удзелам у паўстанні, як Францішак Багушэвіч, сваёй паэтычнай творчасцю, маральным супраціўам паказалі выдатны прыклад для нашчадкаў. Яны не шкадавалі свайго жыцця, яны рызыкавалі, яны ахвяравалі сваёй уласнай воляй за духоўную свабоду ўсіх беларусаў:

*За волю крывёй адплата,*
*не шкода й жыцця аддаць...*

(Францішку Багушэвічу, с. 108/7-8)

Эдуард Акулін надае беларускай мове выключную ролю аб'ядноўчага фактару для ўсяго народа, ролю каталізатара і трансфарматара беларускага грамадства. Мова для паэта - і сакральны сімвал беларусаў, і паказальнік духоўнага здароўя нацыі, і прыкмета незалежнага дэмакратычнага грамадства. Вось чаму:

*"Жывуць у ёй воля й праўда"*

(Францішку Багушэвічу, с. 108/11)

Вобразы, датычныя Радзімы, атрымліваюцца ў паэта велічнымі і трагічнымі. Анёл-ахоўнік Беларусі напалову белы ад таго лепшага, што ёсць у нашым народзе і на нашай зямлі. І напалову чорны ад тых бедаў, якія ўзяла на сябе Беларусь:

*Анёл самотны падаў з неба*
*Над Беларуссю незаўважна...*
*Адно крыло - бялей ад снегу.*
*Другое - чорнае, бы сажа.*

(Плач, с.163/1-4)

І не зразумела, якім будзе далейшы лёс Беларусі. Чаму ў нядоўгія гады беларускага нацыянальнага росквіту з 1990-га па 1994-ы мы не бачым аптымізму ў вершах Эдуарда Акуліна? Ці прадбачыў ён, што тая Беларусь, пра якую ён дбаў, і якая жыла ў марах і думках дэмакратычнай часткі беларускага грамдства, неўзабаве набудзе зусім іншы выгляд? Ці баяўся ён сурочыць легкадумнай радасцю вершаванага радка той цярністы шлях, на які толькі што выйшла маладая Беларусь? Вось жа пачалі збывацца самыя смелыя мары. Беларуская мова стала дзяржаўнай і загучала з высокіх трыбунаў, дзеці масава пайшлі ў беларускія школы. Упершыню за доўгія гады дзяржава ўсур'ёз пачала падтрымліваць беларускую мову і культуру.

Эдуард Акулін сам аддана працуе дзеля беларускага адраджэння. Тысячы дзяцей слухаюць і глядзяць батлеечныя спектаклі, якія разыгрывае перад імі паэт у "Беларускай хатцы". У батлеечным свеце драўляны народ гаворыць і спявае голасам Эдуарда Акуліна па-беларуску.

У гэтыя гады хто-ніхто з беларускіх адраджэнцаў ужо супакоіўся, быў упэўнены, што працэс вяртання беларускай мовы ў грамадскае жыццё незваротны. Эдуарда Акуліна ў гэты час не пакідаюць змрочныя адчуванні. На вяршыні сваёй трывогі, шукаючы трывалага апірышча для душы, паэт звяртаецца да Бога:

*Божа літасны, трыадзіны,*
*Ты літанне маё - пачуй.*
*Не пакінь у бядзе Радзімы -*
*уратуй.*

(Малітва, с. 174/1-4)

Прыехаўшы ў Менск з вёскі, засыпанай радыяцыйным пылам, пражыўшы там з сям'ёй пяць гадоў, Эдуард Акулін не мог абмінуць у вершах і гэтага гора, так да рэшты і неўсвядомленага беларусамі, а калі і ўсвядомленага, дык схаванага, як зазвычай, глыбока ўсярэдзіну.

Яшчэ болей радыяцыі ўпала на малую радзіму паэта, на Веткаўшчыну. І "Лес дзённага асвятлення", бярозавы гай ля Свяцілавіч, які навеяў Эдуарду Акуліну назву яго першай кнігі, як у жахлівым фантасмагарычным сне, засвяціўся на дазіметры ад радыяцыі. Чарнобыльская катастрофа забіла юнацкую мару паэта, ягонае ўяўленне аб дасканалай прыгажосці на роднай зямлі. Чысты і цнатлівы бярозавы гай стаў атрутным і смяротным. Дым Айчыны для паэта стаў "не салодкім, а гаркавым". Чарнобыльская катастрофа ўяўляецца паэту расплатаю за дзесяцігоддзі невер'я і адмаўлення ад уласнай нацыянальнай тоеснасці. Чарнобыльскі радыяцыйны дым:

*Ён аблуднаму люду быў*
*і прычасцем святым і карай.*

(Дым Айчыны, с. 129/7-8)

З гэтай думкаю паэта можна пагадзіцца хутчэй у метафізічным, чым у гістарычным сэнсе. Бо часам усё ж гістарычныя абставіны мацнейшыя і за волю народа.

Не менш кранае пачуцці верш-эскіз, дзе паэт асабліва і не гаворыць пра Чарнобыльскую бяду. Але верш усё ж менавіта пра гэта:

*Журавіны бяруць жанчыны,*
*паслухмяныя студзяць пальцы.*
*Не баяцца слядоў ваўчыных, -*
*на чарнобыльскі вецер скардзяцца.*

*Журавіны бяруць жанчыны,*
*імі ўсыпана ўсё Палессе...*
*Нібы кроў па слядах ваўчыных*
*палымнее на першым снезе.*

(Журавіны бяруць жанчыны, с.130/1-8)

І калі сэрца паэта баліць за народ, то ягоная душа шукае супакою ў прыгажосці беларускай прыроды. Гэта тое, з чым ён рос змалку, што кранала ягоныя пачуцці ў юнацкія гады. Гэта тое, што ніколі не здрадзіць паэту, ніколі не расчаруе.

У вершах Эдуарда Акуліна выяўляецца глыбокая і пяшчотная любоў да беларускай зямлі, якая мае сваю адметную, можа, някідкую, але захапляльную прыгажосць. Нашая прырода блізкая кожнаму беларусу. Але ж не кожны хоча і можа выказаць свае пачуцці праз эмоцыю і экспрэсію слова.

Вершаваныя акварэлі змяніліся на эскізы. Узмацнілася сэнсавая і пачуццёвая нагрузка гэтых лёгкіх на першы погляд малюнкаў, выканаых упэўненым словам майстры:

*Пунсовы ветразь плыў па лесе...*
*Нібыта свечка па сутонні.*
*Пунсовы ветразь - ліс на снезе,*
*агонь блукання на прыволлі.*
*Плыві, прыгожы, покуль вецер*
*тваіх слядоў не пакідае,*
*і абмінуць здалей дасвецце,*
*дзе лёс-ганчак цябе чакае.*

(Ліс, с. 113)

Пры прачытанні гэтага верша з'ўляецца пранізлівае адчуванне, што паэту ўдалося стварыць імгненны наклад абсалютнай свабоды, свабоды, якой няма ў чалавека, якой можна толькі зайздросціць і спачуваць, бо пры сутыкненні з жорсткай рэчаіснасцю ў яе няма шанцаў на выжыванне. У гэтым эскізе праз захапленне ўбачанай прыроднай неўтаймавальнай прыгажосцю паэтам высвечваецца жыццёвы досвед паэта, мудрасць, якая даецца чалавеку з пражытымі гадамі.

### V.

Напачатку 90-х гадоў Эдуарду Акуліну было крыху за трыццаць. Здавалася б, яшчэ ўсё жыццё наперадзе, але паэт нервова і хваравіта рэагуе на хуткаплыннасць часу. Ён са здзіўленнем, недаверам і сумам аглядаецца на прамінулую маладосць. Імгненнасць быцця і заварожвае, і расчароўвае яго:

*Зялёны месяц травень*
*мільгнуў і тут жа знік.*
*Нібыта за дажджамі*
*прагледжаны цягнік.*

*Здаецца толькі вось як*
*яго быў чутны рух...*
*Стаю - навокал восень,*
*і семафор патух.*

(Травень, с. 143)

Паэт разважае над непазбежнасцю зменаў у сваім жыцці, якое цячэ, як пясок праз пальцы, і немагчыма затрымаць ягоную плынь:

*і жыццё, як рака мялее...*
*Так мінаюць дзяцінства, сталасць.*
*А наперадзе плёс бялее*
*ціхаплынны, нібыта старасць.*

(Жыццёзварот, с. 133/1-4)

Яму падаецца, што жыццё мінае будзённа і нецікава. Але ў гэтай, здавалася б, і спакойнай, і безэмацыйнай канстатацыі адчуваецца ўнутраная нязгода і пратэст. Трэба жыць па-іншаму, ярка і цікава, чытаецца між радкамі гэтага верша, але жыццё зліваецца ў шэрую і аднастайную плынь, якая цягне чалавека за сабой і якой ён не ў змозе супрацьстаяць:

*Бяз ценю шкадобы, бяз кроплі адчаю*
*жыву і жыцця свайго*
*не прыкмячаю...*

*Год вып'ю, як кубак гаркавага чаю...*
*Жыву і жыцця свайго*
*не прыкмячаю...*

*Жыццёвы экватар*
*будзённа страчаю.*
*Жыву і жыцця свайго*
*не прыкмячаю...*

(Без ценю шкадобы, без кроплі адчаю, с. 140/1-6)

Прадвызначальнасць лёсу, наканаваны кожнаму чалавеку адыход "у вырай" стаіць перад кожным з нас. І людзі па-рознаму ўсведамляюць гэты бязлітасны вырак прыроды. Паэт выразна адчувае надыход восені ў сваім жыцці, восені, за якой непазбежна прыйдзе зіма:

*Восень прыйшла знянацку,*
*як тэлеграма ноччу.*
*Восень - і час збірацца*
*шляхам птушыным крочыць.*

(Восень прыйшла раптоўна, с. 135/5-8)

Чаму так рана, задумваемся мы? Трэба сказаць, што матывы безнадзейнасці і песімізму часта чутныя ў лірыцы розных паэтаў. Можа быць таму, што, як у свой час прызнаваўся Уладзімір Караткевіч, яны жывуць як быццам бы са злупленай скураю. Неверагодная чуйнасць на праявы жыцця, празмерна развітае ўяўленне, адчыненая наросхрыст душа, якая ўмее і вымушана перажываць і балюча рэагуе на жорсткасць і несправядлівасць, мудрасць і сталасць, з'яўляюцца праявамі сапраўдных паэтычных натураў. Часам унутраны крызіс паэта выплёскваецца навонкі радкамі, напоўненымі глухім болем і адчаем:

*Я стаміўся на свеце жыць,*
*я аб смерці стаміўся думаць...*
*Ліст на ветры ўгары дрыжыць*
*і на дол пазірае з сумам.*

(Я стаміўся на свеце жыць, с. 132/1-4)

Паэт думае пра непазбежны скон, шукае сімвалічныя знакі і мясціны, да прыкладу, захапляецца бярозавым гаем на вясковых могілках:

*Ах, якія могілкі прыгожыя*
*на радзіме Толіка Сыса!*
*Дзе бярозай стала ледзь не кожная*
*у Дняпро схаваная душа...*

(Зайздрасць, с.165/1-4)

Ён не асцерагаецца назваць гэты верш "Зайздрасць", бо гэта ж не зайздрасць быць пахаваным на прэстыжных могілках. Гэта падсвядомае жаданне знайсці ў смерці рысы вечнай дасканаласці і прыгажосці.

Паэт думае і разважае пра тое, а што ж застанецца пасля яго ў гэтым свеце? І нараджаюцца радкі аднаго з найлепшых, на мой погляд, вершаў Эдуарда Акуліна:

*Месячнай цёплай ноччу*
*шляхам апошнім, Млечным,*
*ціха ў Сусвет пакрочу,*
*буду сабе свяціць...*
*Каб і адтуль, з вышыняў,*
*каб і адтуль, з далечы,*
*бачыць цябе, Радзіма,*
*і, як цяпер, любіць.*

(Месячнай цёплай ноччу, с. 141)

Гэты верш уяўляецца развітальным спевам з жыццём, кранальным, сціплым і глыбока ўласным, ён, як запавет у любові да Радзімы, які даецца самому сабе. Вечная душа чалавека, вечная любоў, якая струменіць з яе, вечная Радзіма. Уражвае непадробленая шчырасць верша. Ён адначасова і патрыятычны, і лірычны. Ціхая, бязпафасная любоў да Радзімы, любоў, якая перамагае смерць, любоў бязмежная і ўсеабдымная да той Радзімы, якая ў нас ёсць, з яе хібамі і звадамі, з яе нязгаснай прыгажосцю проста праменіцца з гэтага верша.

Эдуард Акулін спрабуе асэнсаваць і суаднесці ўласнае **Я** і бег часу. Час падаецца яму бязлітаснай нейтральнай субстанцыяй, якая няўхільна забірае ў чалавека жыццё. Чалавечая асоба раствараецца ў часе. Самотныя хвалі часу нясуць чалавека наперад. Паэт імкнецца зразумець, што адбываецца з асобаю ў зменлівым рухомым свеце:

*Я ўрастаю ў чарговы дзень,*
*як у лёд урастае рыба.*
*Саркафага шкляная глыба*
*размяжуе святло і цень.*

*Я ўрастаю ў чарговы год*
*непазбежна і незваротна,*
*не шкадуючы дзён самотных,*
*што згарэлі, нібы бікфорд.*

(Я ўрастаю ў чарговы дзень, с. 134/1-8)

Смерць уяўляецца паэту не толькі, як рэальнае пахаванне, але і як адыход душы чалавека ў нябесныя вышыні. У рэчышчы хрысціянскай традыцыі ён разглядае гатоўнасць уласнай душы да небаўзняцця. Чалавечае жыццё поўнае клопатаў, кахання і пакутаў, поўнае высокіх памкненняў і жарсці, урэшце становіцца падобным да ледзь прыкметнай залатой слязы на свечцы:

*Усе пуцявіны прыводзяць у неба.*
*Для грэшнай душы сваёй*
*крылы гадую.*
*Калі адыходзіш - адзінае трэба:*
*на свечцы заўважыць слязу залатую.*

(Адлюстраванне, с. 150)

І сон уяўляецца паэту падрыхтоўкаю да развітання з жыццём, кароткачасовай смерцю, калі душа адлятае ад цела, і калі ты можаш паглядзець на самога сябе як бы збоку:

*І целу майму пустому*
*балесна на сподзе сноў.*
*Вярніся, душа, дадому, -*
*прашу і не чую слоў.*

(Душа, с. 164/5-8)

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Творчыя асобы спрыяюць духоўнасці народа

***Беларускі кінарэжысёр, сцэнарыст і акцёр Сяргей Мікалаевіч Шульга падзяліўся думкамі пра свой жыццёвы і творчы шлях з нагоды нядаўняга 60-гадовага юбілею***

Яшчэ ў 70-80-я гады ён стварыў характэрныя нацыянальныя вобразы на сцэне Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра і тэатра імя Я. Коласа ў Віцебску. Сяргей Шульга зняў шэраг мастацкіх і дакументальных карцін "Анамалія (1984),"На зыходзе дня" (1985), "Цубанікі "(1987), "Хам" (1988-89), "Шляхі Гасподнія" (1999), "Дзеці крэпасці" (2003), "Час акцёра. Аляксандр Ткачонак" (2001), "А цяпер - судзі" (2004), "Доўгая дарога да сябе. Генадзь Гарбук" (2007) і іншыя.

Фільмы па Аляксею Дудараву "На зыходзе дня" і "Цубанікі" былі прысвечаныя ваеннай тэме. 4-серыйны фільм Сяргея Шульгі "Талаш" з поспехам прайшоў на экранах у студзені 2012 года.



***- Ураджэнец Расіі, Вы ўсё жыццё працуеце для беларускай культуры. Калі Ваша сям'я пераехала ў Менск, і Вы адчулі сябе беларусам?***

- Нарадзіўся я ў канцы 1953 года ў Татарскай АССР, цяперашнім Татарстане. Мой бацька ўдзельнічаў у будаўніцтве нафтаправода "Дружба", і ў невялікім мястэчку Бугульма я з'явіўся на свет. Адпраўной кропкай нафтаправода быў горад Альмецьеўск, дзе мы пражылі 10 гадоў.

Маці мая родам з-пад Смаленска, бацька - з-пад Бранска, усё - па суседстве з Беларуссю. Да вайны мама жыла ў Менску, тут яна пазнаёмілася з бацькам.

Мама вучылася ў Менскім харэаграфічным вучылішчы. Калі б не вайна, яна магла стаць балярынай, тата ў гэты час працаваў на "Масфільме " асістэнтам рэжысёра Міхаіла Рома ("Дзевяць дзён аднаго года", "Звычайны фашызм" і інш), але вайна пераламала іхнія лёсы. Калі прыйшлі фашысты, мама засталася ў Менску ў падполлі. Тата пайшоў у партызанскі атрад легендарнага бацькі Міная.

У нашай сям'і ўсе любілі музыку: бацька і маці спявалі, гралі на фартэпіяна, выдатна танцавалі. Мы з братам Юрыем амаль з маленства навучаліся граць на скрыпцы. Упершыню я ўзяў інструмент у рукі, калі мне ледзь споўнілася пяць гадоў.

У Альмецьеўску для мяне і майго старэйшага брата бацькі набылі піяніна. Увесь горад збегся глядзець на гэты "цуд". У 7 гадоў я паступіў у сярэднюю спецыяльную музычную школу для адораных дзяцей Урала і Паволжа ў горадзе Казані. Пасля трэцяга класа мы пераехалі ў Менск.

Тут я таксама вучыўся ў музычнай школе пры Белдзяржкансерваторыі, дзе мяне пачалі сур'ёзна рыхтаваць да будучай прафесіі скрыпача.

Але абставіны склаліся інакш. Мой брат Юрый паехаў па камсамольскай пуцёўцы на Далёкі Ўсход і вярнуўся адтуль захоплены тэатрам. Я быў у 7-м класе, калі ён паступіў у тэатральны інстытут і пачаў далучаць мяне да будучай прафесіі акцёра. Да таго ж, наступіла эпоха "Бітлз", і замест скрыпкі і фартэпіяна мы пачалі граць на электрагітарах і іоніках. Замест Паганіні і Вівальдзі захацелі слухаць Джона Ленана і Пола Макартні. Прафесія скрыпача сышла на другі план.

У 1970 годзе пасля заканчэння школы, паехаў паступаць у тэатральныя ВНУ Масквы. Не паступіў. Вярнуўся ў Менск, і быў залічаны ў БДТМІ на акцёрскае аддзяленне.

У мяне былі выдатныя педагогі: Уладзімір Андрэевіч Маланкін, Валерый Мікалаевіч Раеўскі, Барыс Іванавіч Луцэнка, Тамара Сяргееўна Узунова, Валерый Данілавіч Анісенка.

***- Музыка яшчэ была Вам блізкая?***

- У інстытуце мне даводзілася граць на скрыпцы, на гітары, на фартэпіяна, пісаць музыку да дыпломных спектакляў.

У 1975 годзе, мяне размеркавалі ў Магілёўскі абласны драматычны тэатр. У гэты ж тэатр прыйшоў малады рэжысёр Юры Мірoненка і перацягнуў яго ў эксперыментальную студыю. Праз год Магілёў стаў другім Панявежысам. Калісьці ў гэты маленькі гарадок з усіх рэспублік ездзілі глядзець спектаклі Юозаса Мільцініса, у якіх былі занятыя Данатас Баніоніс, Бронюс Бабкаўскас, Альгімантас Масюліс і іншыя.

Так сталі прыязджаць і на нашы спектаклі ў Магілёў. Рэпетавалі мы днём і ноччу . Літаральна начавалі ў тэатры . Мы выконвалі цудоўныя п'есы: "Апошняя інстанцыя " Мікалая Матукоўскага, "Мінулым летам у Чулімску" Аляксандра Вампілава, "Жаўранка" Жана Ануя і іншыя.

Атрымлівалі мы тады капейкі: па 60 рублёў у месяц. Але нам была важная наша эксперыментальная студыя, мы не баяліся цяжкасцяў. Скідаліся па тройцы і ездзілі на таксі ў Менск на закрыты прагляд фільма Таркоўскага "Люстэрка", на прэм'еры аднакурснікаў, слухалі "Трубадура" і "Чырвоныя гітары".

З Магілёва па загадзе Міністэрства культуры мяне камандзіравалі ў Віцебск, дзе рыхтаваліся да 50-годдзя другога па значнасці тэатра ў Беларусі - Дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа. Мне прапанавалі загалоўную ролю ў спектаклі "Сымон-музыка" па знакамітай паэме класіка. Музыку да пастаноўкі пісаў Сяргей Картэс. "Сымон-музыка" прагучаў на ўсю Беларусь. Прысутны на прэм'еры Пётр Машэраў даў даручэнне зняць спектакль на стужку і ўнесці ў залаты фонд беларускага тэатральнага мастацтва. Рэжысёру Валеру Мазынскаму, мастаку Аляксандру Салаўёву і мне ўручылі прэмію Ленінскага камсамолу Беларусі.

Вельмі люблю гэты спектакль і зараз, не гледзячы на тое, што прайшло амаль 40 гадоў, я магу выканаць яго ў вершах ад пачатку да канца за ўсіх персанажаў.

***- Якія яшчэ тэатральныя ролі Вам дарагія?***

- Кожная выкананая роля - гэта народжанае табой дзіця. Выступаў у ролі Кая ў "Снежнай каралеве" Яўгена Шварца, у ролі Армана Дзюваля ў "Даме з камеліямі" Аляксандра Дзюма-сына. Усё гэта засталося ў далёкім шчаслівым юнацтве.

***- Як Вы трапілі на кінастудыю "Беларусьфільм"?***

- У 1985 годзе, калі я скончыў вучобу ў Маскве, у



краіне ўсё ламалася, усё крышылася, кінастудыя "БЕЛАРУСЬФІЛЬМ" была падзелена на маленькія аўтаномныя студыі: студыя "Кадр", студыя імя Тарыча, студыя Міхаіла Пташука, паміж якімі вялася няхай і тайная, але ўсё ж "вайна". Раней нас называлі "Партызанфільм", але мы былі з'яднаныя, і былі фільмы, якімі можна было ганарыцца. Такіх шэдэўраў, як "Я родам з дзяцінства", "Іван Макаравіч", "Белыя росы" - ужо няма.

З 1985 па 1997 год я працаваў на кінастудыі "Беларусьфільм" асістэнтам рэжысёра. Я і раней задумваўся пра кіно. А калі пасля школы ездзіў паступаць у Маскву, нават круціўся каля Усесаюзнага інстытута кінамастацтва, але зайсці так і не адважыўся.

Падчас службы ў войску ў начных вартах, падчас стаяння "на тумбачцы", у паўзе паміж стрэльбамі ўсё часцей мяне пачалі наведваць думкі аб кінарэжысуры.

Перад дэмабілізацыяй паслаў у Маскву на допуск да іспытаў некалькі апавяданняў, сцэнароў. Потым яшчэ год працаваў у Коласаўскім тэатры, і прайшоў адборачную камісію ва Усесаюзны інстытут кінематаграфіі.

З 1997 па 2004 год на студыі "Белвідэацэнтр " я здымаў дакументальныя стужкі. Я спыніўся на тэмах, мне блізкіх і дарагіх.

Першым стаў фільм пра заснавальніка беларускага тэлевізійнага кіно, аўтара легендарнага серыялу па творы Васіля Быкава "Доўгія вёрсты вайны " - Александра Якаўлевіча Карпава - старэйшага. Я імкнуўся паказаць не толькі творчы шлях таленавітага акцёра і кінарэжысёра, але і расказаць пра яго ваенныя гады, пра ролю ў станаўленні не толькі беларускага кіно, але і кінематографа Казахстана, дзе ён зняў знакаміты фільм "Сэрца маці", за які атрымаў Дзяржаўную прэмію і званне заслужанага артыста.

Фільм "Шляхі Гасподнія " мы здымалі ў кляштарах Беларусі. Нашай мэтай было даведацца, зразумець і паказаць на экране прычыны, якія змушаюць людзей ісці ў манастыр, адрываючы сябе ад мірскіх выгод. Хоць я па выхаванні - савецкі чалавек, але мяне з дзяцінства цікавіла пытанне прысутнасці ў душы Бога і Веры.

Фільм "А цяпер судзі " распавядае пра лёс святара Свята- Васкрасенскага сабора ў Берасці, мітрафорнага протаіерэя айца Яўгенія Парфенюка. Фільм прысвечаны адраджэнню царкоўнага жыцця ў час Вялікай Айчыннай вайны і лёсам святароў на акупаваных фашыстамі тэрыторыях. Пасля заканчэння працы над фільмам мы яшчэ доўга падтрымлівалі сяброўскія адносіны з айцом Яўгенам і яго сям'ёй, ён стаў маім духоўнікам, вянчаў нас з жонкай у Берасцейскім саборы.

Іншай тэмай карцін было мастацтва. Мне ўдалося зняць некалькі фільмаў пра сваіх калег: "Яго Вялікасць тэатр" пра акцёраў Рускага тэатра імя Горкага, пра кінарэжысёра Аляксандра Карпава, народных артыстаў Беларусі Генадзя Гарбука і Аляксандра Ткачонка.

Яшчэ на трэцім курсе інстытута ў Менску я здымаў свой першы фільм па Аляксею Дудараву "На зыходзе дня", фільм пра вайну. І на галоўныя ролі былі запрошаныя Генадзь Міхайлавіч Гарбук і Яўген Патафеевіч Шапіла з Коласаўскага тэатра. Мы паставіліся адзін да аднаго з павагай, пасябравалі.

У 2007 годзе я зняў пра Генадзя Міхайлавіча Гарбука дакументальную стужку "Доўгая дарога да сябе". Калектыў падабраўся дружны, мы праехаліся па ўсіх вёсках і месцах, дзе жыў акцёр. Месяц мы былі разам, ездзілі па камандзіроўках. Начныя чуванні, размовы. Тут Гарбук неяк намякнуў, што ён ужо ва ўзросце дзеда Талаша. Я перачытаў "Дрыгву", сустрэўся з сынам Якуба Коласа, падняў шмат дакументаў, звязаўся са сваімі сцэнарыстамі.

Вырашыў, што ў фільме будуць удзельнічаць толькі беларускія акцёры, і ён будзе ісці толькі на роднай мове. У мяне ў карціне былі занятыя выдатныя акцёры: Валеры Зяленскі, Віталь Краўчанка, Павел Харланчук, Анастасія Баброва - усё было напісана пад пэўнага акцёра.

Фільм быў паказаны на першым канале беларускага тэлебачання і потым прайшоў па ўсіх беларускіх каналах.





*(Заканчэнне на ст. 8.)*

# Творчыя асобы спрыяюць духоўнасці народа

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 7.)*

***- Вы выкладаеце рэжысуру ў Беларускай Акадэміі мастацтваў. Якія ісціны Вам хочацца перадаць Вашым студэнтам?***

- Мяне заўсёды цягнула да педагогікі. Цяпер, напэўна, прыйшоў час, перадаць будучым рэжысёрам тое, што атрымаў ад сваіх педагогаў ва Усесаюзным інстытуце кінематаграфіі: Аляксандра Алава, Уладзіміра Навумава, Леаніда Марагана, Георгія Склянскага, Алега Даля. Акрамя іх, я паспяваў тады бегаць на заняткі да Сяргея Герасімава, Аляксея Баталава, Сяргея Бандарчука, Паолы Волкавай, Уладзіміра Бахмутскага і іншых. Сёння свет змяніўся, змянілася і кіно. Зараз тэхніка крочыць далёка наперад, і я вучуся разам са сваімі студэнтамі .

***- У чым адрозненне тых часоў, калі Вы самі вучыліся, і Вашай сённяшняй працай са студэнтамі?***

- Калі я вучыўся спачатку ў БДТМІ на акцёрскім, а затым ў Маскве на рэжысуры, мы, студэнты, як губкі ўбіралі ў сябе, глядзелі, абмяркоўвалі. За першы год навучання я пагляджэў столькі спектакляў і фільмаў, колькі не бачыў за ўсё папярэдняе жыццё (а мне было 27 гадоў). І за кнігамі Эйзенштэйна, Даўжэнкі, Рома, Садуля даводзілася запісвацца задоўга ды пачатку сесіі. Зараз усё стала даступным адным націскам курсора мышы, пошукам у Інтэрнэце. Але такога імкнення да ведаў ужо няма. Адбылася пераацэнка каштоўнасцяў.

Мяне абурае, калі хлопцы і дзяўчаты на людзях размаўляюць матам. Знікла далікатнасць ў адносінах. Маладыя людзі не любяць, а займаюцца любоўю. Здрада, подласць, хлусня сталі нармальнымі якасцямі. "Ашукай блізкага і ўзрадуйся", - вось прымаўка, якая для многіх стала дэвізам жыцця. А адкуль моладзь бярэ прыклад падобных паводзін? З Інтэрнэту, з экранаў кінатэатраў і тэлевізараў. Галоўнымі героямі сталі прастытуткі, бандыты, разбойнікі. Кнігі тут адстаюць. Іх проста менш чытаюць. Дэтэктывы, фэнтазі - літаратура сённяшніх чытачоў.

Тыя хто, працуе ў культуры, яшчэ могуць падтрымліваць ідэал, высокую планку. Сваім студэнтам я стараюся прышчапіць любоў да класічнай літаратуры. Талстой, Дастаеўскі, Тургенеў, Пушкін, Лермантаў, Ясенін - вось на кім трэба адточваць свой густ. І, безумоўна, беларускія класікі: Купала, Колас, Багдановіч, Быкаў, Караткевіч. Студэнты творчых ВНУ - надзея свайго народа, эліта. Яны павінны разумець і адчуваць сваю адказнасць. Хаця, тут усё значна глыбей. Трэба было выхоўваць іх бацькоў і маці, бо галоўны прыклад жыцця ідзе з сям'і.

***- У Вас была ўдалая экранізацыя рамана Элізы Ажэшкі "Хам".***

- Фільм "Хам" мы здымалі разам з Дзмітрыем Зайцавым ў 1988-89 гадах. Гэта быў мой дэбют. Мая першая вялікая карціна. Я вельмі люблю гэты фільм. Шмат чаму мяне навучылі і Дзмітрый Зайцаў, і Уладзімір Спорышкаў - аператар фільма. У галоўных ролях здымаліся: польская акторка Ханна Дуновска і Генадзь Скуратаў - акцёр Віцебскага тэатра імя Я. Коласа.

***- Ваша Жонка Ніна Георгіеўна Вам шмат у чым дапамагае?***

- Ніна - добры і святы чалавек, таму што падтрымлівае мяне і клапоціцца пра мяне і сына. А гэта паверце, нялёгка. Да таго ж, яна сама - творчая асоба.

Ва ўсіх маіх карцінах яна працуе асістэнтам, усю чарнавую працу нясе яна. Зараз, калі я пайшоў у педагогіку, яна сама праводзіць кастынгі і прапануе нашых акцёраў на тыя ці іншыя ролі. У маладосці яна выступала ў Народным тэатры, і гэта дапамагае ёй сёння здымацца ў эпізодах.

І сын наш Мікалай таксама здымаецца ў кіно. Цяпер галоўнае захапленне ў яго - гітара, скрыпку ён пакуль адклаў у бок. У яго раскладзе - гурток інфарматыкі, ансамбль і хор, нядзельная школа, басейн. Усе педагогі кажуць, што ў яго ёсць выдатныя здольнасці да іх дысцыплінаў.

***- Жадаем Вам поспехаў у новых карцінах і педагагічнай дзейнасці, добрага здароўя!***

*Гутарыла* ***Э. Дзвінская.***

**Фота** з архіва рэжысёра: 1. Кінарэжысёр Сяргей Шульга; 2. Сяргей Мікалаевіч Шульга і Генадзь Міхайлавіч Гарбук; 3. На здымках.

# Малая гісторыя

Жылі побач праз вякі
Паны ды мужыкі
Бедныя багатым чынш аддавалі,
Потым на сябе ўжо працавалі.

А тут з горада заскочыў рабочы
І з ім кухарка Варка,
У весялосці знялі толк,
Занесла ў вясковы іх шынок,

Там ужо сядзеў
Фатограф Якаў.
Ходзілі чуткі па сялу,
Цар не падабаецца яму.

І закіпела тут работа,
Агітацыя народа.
Расплюшчвалі людзям вочы
Фатограф, кухарка ды рабочы.

Як да гэтага мы жылі,
Дык паны ж нас ледзь не задушылі.
Ад такой вось агітацыі
Спарадзіліся дэманстрацыі.

Потым выйшла рэвалюцыя,
Накаціла першая рэвалюцыя,
Але цвёрда цар сядзеў на троне,
За год адолеў ён беззаконне.

Праз колькі часу пайшла чутка -
Вайна будзе вельмі хутка.
Забілі аўстрыйскага крон-прынца,
Сербы не аддаюць злачынца.

Пачаліся ноты, змовы,
Для міру не аказалася ўмовы,
Загрымелі гарматы,
Загарэліся хаты.

Народу палажылі ў Першую нямала,
Прымянялі газы, зямля занялала.
Перабіліся ўшчэнт дзяржавы
Нечакана накацілі ўнутраныя справы.

Хлеба не стала,
Аніякае яды,
Б'о тры гады
Тае бяды.

Далоў цара!
Далоў вайну!
Рабочаму хлеба!
Мужыкам зямлю!

Купіліся ўсе ўраз
Ура! Ура! - каціласі ў адказ.
Кінуў фронт салдат,
Ад Савета атрымаў мандат.

Кінуў карабель матрос -
Мічман - служка, боцман - пёс.
З фабрыкі выйшаў рабочы
Свабодзе зазірнуць у вочы.

Усіх панесла, пакаціла,
Каго ў кола, каго ў мяла,
Толькі косці затрашчалі,
Ды жанчыны застагналі.

Саветы скінулі цара
- Ура! Ура! Ура!
Вайне - канец!
Які Троцкі - маладзец.

- Знішчыць трэба самадзержца,
Не патрэбен нам і Бог!
Едзь і разбярыся
Ты, фатограф.

Забойца разабраўся хутка
На цара з царыцаю, з дзеткамі
Куль не шкадавалі,
Штыкамі дабівалі.

Адвезлі ў лес, спалілі,
Скінулі ў шахту, як дровы.
Бальшавіцкая лютасць і зверствы -
Новай дзяржавы асновы.

Шаблі нагало,
Налятаюць на сяло.
Сякуць ўсіх адразу,
Белую заразу.

Тры гады адзін другога білі,
Усё да шчэнту развалілі.
Перамаглі ў крывавай свары
Чырвоныя камісары.

Белыя ўзышлі на караблі
Ды назаўжды адсюль сплылі.
Жывіце па сабе вы, мужыкі,
Не хадзіць нам болей ля адной ракі.

- Кіраваць дзяржавай можа кожная кухарка, -
Заявіла бальшавічка Варка
І фатографу за растрэльны фронд
Даручылі ўвесь алмазны фонд.

Неяк здарылася так:
Не атрымаў завод рабочы народ,
І мужычку Ямельку
Не выдалі асабістую зямельку.

Каб накарміць краіну,
Улезлі ў старую каляіну.
НЭП-ам назвалі,
Рукі людзям развязалі.

Як падняліся з галадухі,
Налацелі тут, як мухі,
Схапілі за штаны, спадніцы,
Закаталі ў "яжовыя рукавіцы"

Трэба Днепрагэс нам будаваць,
Людзей адкуль сюды ўзяць?
Яшчэ каналы будзем рыць,
Зноў сілоў многа палажыць.

Лесу патрабуецца зашмат,
Ганіце ўсіх - хто вінават-не вінават.
Разбярэцца тройка:
Мядзведзь, лось і вавёрка.

Леглі пад шпалы,
Леглі пад масты,
Без магіл - ні адной вярсты.
Нялюдскія справы -
Сатанінскай дзяржавы.

Будавалі камунізму прыступку,
Зляпілі для вертухая будку.
І вось прыйшоў у свой чарод
Крывавы, страшэнны - 37 год.

Па начах людзей хапалі,
Як звяроў лавілі,
Катаваннем агаворы выбівалі,
За гэта ж потым і стралялі.

А яшчэ бяліся ва ўсіх канцах,
Ворагаў навокал - проста жах:
Палякі, фіны, японцы ды франкісты.
Усюды салдаты патрэбны ды чэкісты.

За турботамі такімі настаў у свой час
41-ы незабыўны для ўсіх нас.
Пад сто мільёнаў згубіла яна -
Другая сусветная вайна.

Лёг на смяротны абрус
І кожны трэці беларус.

А пасля такога перагрусу
Яшчэ паўстагод заставалася таму Саюзу.
Доўга кашляў і чыхаў
Ды нарэшце ціхенька сканаў.

А мы -
часцінка дзяржавы - маны -
Засталіся ўжо адны.
Як нам жыць і выжываць,
Каб сатаністамі не стаць.

Выбачайце, калі ласка,
Не дапаможа аніякая падказка.
Будзе ясная дарога:
Воля - народа, воля - Бога.

Сацыялізм, фашызм ды камунізм
Гэта народная забава - мазахізм.
Чацвёртае пакаленне дагрызе,
А з пятым у Інтэртэт ужо не запаўзе.

Знайшоў я дзеда і бацькі след,
А вось нашыя, дачка, сляды.
Глядзі, унукаў след,
Дык гэта ж Інтэрнэт.

***Уладзя Западзерскі,***
*г. Салігорск.*

# Выйшла кніга твораў Юркі Геніюша "Смыком па сэрцы"

Беларуская Інтэрнэт-Бібліятэка Kamunikat.org стала выдаўцом кнігі Юркі Геніюша "Смыком па сэрцы", якая днямі з'явілася ў Беластоку.

Пад адной вокладкай сабраныя літаратурныя і публіцыстычныя творы сына Ларысы Геніюш і выдатнага беларускага пісьменніка, які заўчасна памёр у 1985 годзе. Кніга з'яўляецца найбольш аб'ёмным зборам яго ных тэкстаў з выбарам розных жанраў творчасці Юркі Геніюша. Раней у 1980 годзе ў Беластоку быў выдадзены зборнік яго паэтычнай лірыкі, перакладзенай на польскую мову "Na poczatku bylo tylko slowo". У 1992 г. выйшаў зборнік твораў "Маці і сын" з творамі Ларысы Геніюш, а ў 1993 г. - зборнік сатырычных фельетонаў і апавяданняў "З маёй званіцы".

*"Вельмі дбаў пра свае тэксты* - піша ва ўступе да новай кнігі Міра Лукша - *не дазваляў калечыць іх, дапісваць што-небудзь Празмерна ўражлівы, да болю сумленны, заплаціў за трагічнае жыццё хваробамі, стратай нерваў, заўчаснай смерцю ў сваё пяцьдзесят. Пераджыў сваю маці на два гады".*

Выданне кнігі Юркі Геніюша "Смыком па сэрцы" было магчымым дзякуючы прыватным фінансавым ахвяраванням.

Калі Вы хочаце набыць кнігу пішыце тут: kamunikat@kamunikat.org




Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік

**Заснавальнік:**
ТБМ імя Францішка Скарыны.
**Пасведчанне аб рэгістрацыі** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
**Адрас рэдакцыі:**
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
**Адрас для паштовых адпраўленняў:**
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
**E-mail:** naszaslowa@tut.by

**Рэдакцыйная калегія:**
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок, Марыя Баравік, Вінцук Вячорка, Юрась Каласоўскі, Леакадзія Мілаш, Максім Новік, Язэп Палубятка, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.
http://nashaslova.mns.by/ http://pawet.net/
http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/

**Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі**

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 13.01.2014 г. у 10.00. Замова № 3.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 5600 руб., 3 мес.- 16800 руб.
**Кошт у розніцу:** па дамоўленасці.